# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 8 (782) ГОД XVI БЕЛАСТОК 21 ЛЮТАГА 1971 г. ЦАНА 60 гр.

## Людзі сваіх часоў

У Гайнаўцы, маладым горадзе, асабліва выразна відаць рытм часу, часу канкрэтнага ажыццяўлення прапаноў, штодзённай працавітасці, перамагання перашкод. А гаворачы іншай мовай: у гэтым годзе Гайнаўка атрымала 60 мільёнаў злотых на інвестыцыі. Гэта значыць, трэба за гэтыя грошы пабудаваць новыя варштаты працы, школы, жыллёвыя памяшканні і камунальныя пабудовы.

Дык растуць у Гайнаўцы сцены фабрыкі стружкавых пліт, пачынаецца пабудова механічнага аддзялення ГЗПМЛ, разбудоўваюцца і мадэрнізуюцца таксама іншыя прадпрыемствы, напрыклад, акруговы малочны кааператыў. Неўзабаве пачне працу гарадская ачышчальня сцёкаў.

Гэтыя прамысловыя капіталаўкладанні — частка агульнага будаўніцтва горада. Зрэшты, кожны з гэтых аб'ектаў (таксама тых, якія плануюцца) — тэрміновыя і неабходныя. Усё роўна, ці будзе гэта Тэхнікум дрэваапрацоўчай прамысловасці ці падставовая школа. На варштаце праблема ясляў для новых жыхароў Гайнаўкі. Пашыраецца будаўніцтва сучасных жыллёвых кварталаў.

Перыяд ажыццяўлення прапаноў не лёгкі. Патрабуе ён добрах выканаўцаў, добрых арганізатараў і важакоў. Звернем тады ўвагу з гэтага пункту гледжання на 24 жыхароў Гайнаўкі, якія ў апошні час атрымалі кандыдацкія партыйныя білеты. Хто гэтыя людзі, якія ўзяліся ажыццяўляць нялёгкія прапановы часу? Перш за ўсё, яны маладыя, працуюць тут і тут будуць працаваць.

Вось маладая работніца Данута Грынцэвіч — сартаўнічка з ГЗПЛ. Дзяўчына адважная, працавітая. З гэтага самага прадпрыемства прыйшоў у рады партыі малады рабочы Юзэф Калодзей — энергічны актывіст ЗМС, які сваім асабістым прыкладам уздзейнічае на іншых.

Сярод новых кандыдатаў партыі з суседніх ГЗПМЛ сустракаем Васіля Віснеўскага — токара, дасканалага спецыяліста. Ён менавіта разам з іншым кандыдатам партыі Уладзіславам Ягелам, столярам з ЗСДД, з'яўляюцца прадстаўнікамі найбольш кваліфікаваных рабочых.

Побач з кваліфікаванымі рабочымі ў партыю прыйшла група інжынерна-тэхнічных кадраў, між іншым: інжынер Леан Паўлоўскі — спецыяліст па тэхналогіі і прадукцыі мэбляў, магістр інжынер Уладзімір Прыступюк — спецыяліст па энергетыцы, Мар'ян Аляксеюк — мэблевы тэхнік, Леан Ціханюк — тэхнік-электрык і інш.

Тэтыя маладыя людзі, выхаваныя ў атмасферы рабочага горада, добра падрыхтаваны да самастойнага жыцця. У капіталаўкладаннях, аб якіх я ўспамінаў на пачатку, узята пад ўвагу таксама стварэнне для іх добрых умоў працы, лепшага, цікавейшага жыцця ад таго, якое мелі іх бацькі.

І гэта менавіта называем прагрэсам.

*Кастусь Ляшчынскі*



*Гайнаўка будуецца.* *Фота: Я. Цялушэцкі*




*Вера Асіпюк.* *Фота Цаф — Сянько*

## XV ГОД

## СЯРОД СТУДЭНТАЎ

Далёка ад гарадскога грукату і шуму, сярод засыпаных снегам агародчыкаў ўзвышаюцца на вуліцы Смычковай будынкі Інстытута рускай і славянскай філалогіі — аднаго з навуковых звенняў Варшаўскага універсітэта. Побач аўдыторый, залаў для практыкаванняў і для іншых заняткаў знаходзіцца тут таксама прасторны корпус студэнцкага інтэрната. Жывуць там і студэнты беларускай філалогіі.

Стукаю ў дзверы пад нумарам 59. Пакой прасторны. На месцы вада і іншыя «выгоды». Жывуць у ім дзве студэнткі. Вітае мяне чорнавалосая прыгажуня і звонка, на беларускай мове адказаўшы на маё прывітанне, дадае:

— Вера, гэта да цябе, давай інтэрв'ю, слаўная будзеш!

З-за заслоны выходзіць русая, сярэдняга росту, зграбная дзяўчына. Гэта Вера Асіпюк. Жыве і вучыцца разам з сяброўкай Валяй Міхальчук. Абедзве яны амаль зямлячкі. Бацькі Веры жывуць у Клейніках на Гайнаўшчыне, а родная вёска Валі — гэта Гусакі ў Бельскім павеце. Іх сяброўства пачалося і замацавалася яшчэ ў Бельскім беларускім ліцэі.

— Паступіць на беларускую філалогію параіла нам наша настаўніца, пані Лідзія Гайдук, — гаворыць Вера.

— І мы ёй вельмі ўдзячны за гэта, — дадае Валя. — Вось ужо за намі палавіна трэцяга курса, а я свайго выбару не шкадую.

— А вы, Вера?

— Я таксама! Прыемна вывучаць сваю родную мову. Моўныя пытанні асабліва мяне цікавяць. Думаю прысвяціць ім сваю дыпломную працу.

— Вера, — спыняе яе сяброўка, — ты разгаварылася, а сябра рэдактар хоча ж правесці з табою інтэрв'ю.

— Інтэрв'ю? Са мною? А чым жа я заслужыла? З якой нагоды?

— З нагоды 15-годдзя БГКТ.

— Калі наша таварыства пачынала сваю дзейнасць, я была яшчэ 6-цігадовай дзяўчынкай... — смяецца Вера.

— Аднак цяпер вы — старшыня студэнцкага гуртка БГКТ, які існуе пры вашым інстытуце...

— Што ж, выбралі мяне, дык трэба ж штосьці рабіць. Гурток наш быў заснаваны ў сакавіку мінулага года. Згуртоўвае ён цяпер 32 члены. Гэта студэнты беларускай і рускай філалогіі. Членамі БГКТ з'яўляюцца ў нас не толькі беларусы. Ёсць сярод нас і палякі.

— Жывем мы вельмі дружна, сапраўды па-сяброўску, — сцвярджае Валя.

— Часта, — гаворыць далей Вера, — калі час дазваляе, збіраецца ў нас у пакоі вялікая кампанія сяброўак і сяброў — чалавек 10—15. Калі месца ўсім не хапае, дык рассядаюцца некаторыя проста на падлозе. Слухаем песні, запісаныя на пласцінках, і самі спяваем па-свойму, ад душы — так, як толькі спяваюць у нас на вёсках.

Працяг на стар. 4

## БГКТ хроніка

■ На апошнім пасяджэнні камісіі асветы Галоўнага праўлення быў арганізаваны чатырохасабовы калектыў для апрацоўкі праекта праграмы курса настаўнікаў беларускай мовы ў Мінску, на які кожны год з Беласточчыны выязджае 20 асоб. 29-га студзеня ў пачатковай школе № 3 у Бельску Падляшскім сабраўся гэты калектыў, былі гэта: візітатар кураторыі Стэфан Кэнска, кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ Сяргей Лукашук, кіраўнік секцыі беларускага школьніцтва пры акруговым метадычным цэнтры ў Беластоку Васіль Сакоўскі і кіраўнік секцыі беларускай мовы павятовага метадычнага цэнтра ў Бельску Вера Рышчук. (Усе яны былі на такім курсе ў Мінску). Яны апрацавалі праект праграмы, дапасаваны да патрэб нашых настаўнікаў і выслалі яго ў Варшаву ў міністэрства асветы.

■ У Горным (Гайнаўка) гурток БГКТ у нядаўна адкрытым клубе праводзіць культурна-асветную дзейнасць. 2-га лютага ўтварылася там рада клуба. Пастаноўлена, што каардынаваць працу клуба будзе праўленне аддзела БГКТ.

■ З нагоды 26-ай гадавіны вызвалення Варшавы ў памяшканні варшаўскага аддзела адкрыта выстаўка мастака К. Швайноўскага пад загалоўкам «Варшава ў графіцы».

■ Нядаўна гданьскі аддзел БГКТ арганізаваў падпіску «Нівы» для 14-ці сваіх членаў.

■ 6-га лютага гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў вечарыну для старэйшых класаў эканамічнага і механічнага тэхнікумаў.

■ Моладзь Рыбалаў (Бельскі павет) пад мастацкім кіраўніцтвам Валі Андрэюк і Сяргея Філіпюка падрыхтавала 3 п'есы: «Рэўнасць» — Алеся Пальчэўскага, «Алёша прыехаў» — Івана Ісачэнкі і «Першы ўрок» — Кастуся Губарэвіча. 6-га лютага з гэтымі п'есамі выступілі самадзейнікі ў сваёй вёсцы. Паспяхова выступаў таксама мясцовы харавы калектыў.

■ 7-га лютага харавы калектыў гайнаўскага аддзела БГКТ выступіў з канцэртам у Бранску.

■ Прэзідыум ГП 7-га лютага абмеркаваў справаздачу аб фінансавай дзейнасці ў 1970 годзе, прадстаўленай галоўным бухгалтарам Галенай Мялешка.

III БЕЛАСТОЦКІ ФЕСТЫВАЛЬ «МУЗЫКА І ПАЭЗІЯ»

# АПОШНІ ТЫДЗЕНЬ ЛЮТАГА

Ад 21 да 28 лютага 1971 года ў Беластоку будзе праходзіць III агульнапольскі фестываль «Музыка і паэзія». Напамінаем, што ініцыятарам гэтага цікавага і карыснага фестывалю быў Дзяржаўны сімфанічны аркестр у Беластоку. Ён жа застаецца галоўным арганізатарам мерапрыемства. Восем вечароў фестываля 1971 года будуць называцца:

I вечар — «Дон Жуан» — на фартэпіяна — М. Дрэўноўскі, дэкламуе А. Лапіцкі. Дырыжор аркестра Я. Куляшэвіч.

II вечар — «Паэзія танца» — выступіць танцавальная пара Б. Алькушнік і А. Земскі. Фартэпіяна — Р. Янкоўская.

III вечар — «Канстанцін Ільдэфонс Галчынскі». У ім будзе чытаць паэзію Галчынскага А. Сэнюк і А. Сэверын.

IV вечар — «Сучаснасць» — выступіць калектыў «Варштат музычны», а М. Бялашэўскі будзе чытаць свае вершы.

V вечар — «Вялікія маналогі», скрыпка — К. Данчэўская, дэкламуе В. Сужынскі.

VI вечар — «Вялікія рамантыкі» — песні Шуберта будзе спяваць А. Хіольскі, фартэпіяна — Я. Мархвінскі, дэкламаваць вершы Гётэ і Гейне будзе М. Нямірская-Віснеўская і А. Макавецкі.

VII вечар — «Я. Патоцкі — «Парады». Гэта музычна-тэатральная пастаноўка твора.

VIII вечар — «Эроіка» — III сімфонія Бетховена. На фартэпіяна — П. Палечны, дэкламуе М. Дмахоўскі. Дырыжор Я. Куляшэвіч.

У III фестывалі «Музыка і паэзія» выканаюцца музычныя творы Моцарта, Шапена, Шыманоўскага, Штраўса, Пракоф'ева, Рахманінава, Равеля, Бетховена, Гендэля, Стравінскага, Баха, Шуберта.

Чытацца будуць творы Мальера, Байрона, Апалінера, Джойса, Тувіма, Гётэ, Міцкевіча, Лермантава, Шэкспіра, Гейне, Хемінгуэя, Зандбурга, Жэромскага.

Канцэрты адбывацца будуць у тэатры Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку, а вечары III і V у вялікай зале Медыцынскай акадэміі.

Патранат над III беластоцкім фестывалем прыняў міністр культуры і мастацтва Люцыян Матыка, а ў склад ганаровага камітэта фестывалю ўваходзіць I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку і старшыня Прэзідыума ВРН у Беластоку.

(вл)

## МАЛАДЗЁЖНЫ ФОРУМ

# НЕМАРАЛЬНАЯ, БАНДЫТКА?

У апошні час прыйшло многа пісем, у якіх выступае розная тэматыка. Як вядома, дагэтуль у асноўным мы з вамі займаліся пісьмом вучаніцы Галі. Справы Галі мы не лічым закрытай, але хочам сёння зацікавіць іншай праблематыкай, справамі маладых людзей, якія працуюць на прадпрыемствах, і аб іх канфліктах з сябрамі — супрацоўнікамі ці наадварот.

* * *

«Мне вельмі цяжка. Усе ад мяне адвярнуліся. Калегі па працы абзываюць мяне апошнімі словамі, а я плачу і не маю сілы ім што-небудзь сказаць. Усе думаюць, што я апошняя дзяўчына, а я вінавата толькі ў тым, што была вельмі наіўная. Часамі мне здаецца, што найлепшы выхад — пакончыць з сабой самагубствам.

А было гэта так. Некалькі гадоў таму назад паехала я з сябрамі на забаву ў вёску П. Яны там хутка знайшлі сабе дзяўчат, а сяброўка, якая была з намі, — хлопца. Я сказала Алі, што яна не мусіць пасля кожнага танца да мяне вяртацца і хай танцуе. Я засталася сама. Праз нейкі час падышоў да мяне «хлопец». Мы станцавалі некалькі танцаў, а потым ён запрасіў мяне да «таважыства». Невядома чаму, я згадзілася. Гэтым «таважыствам» аказалася жанчына гадоў 60-ці. Да нас далучылася яшчэ нейкая маладая пара. Запрапанавалі кудысьці ісці. Я баялася, але думала, што ў прысутнасці гэтай пажылой жанчыны мне нічога не станецца, а з другога боку я вельмі нясмелая і не ўмела адмовіцца. Мы пайшлі. Я думала, што ў хаце будуць нейкія госці, а аказалася, што нікога не было. Мужчыны вынялі паўлітра, палажылі сала, цыбулю і пачалі піць. Потым маладая пара выйшла на забаву. Праз нейкі час «хлопец» і мне запрапанаваў ісці на забаву. Мы выйшлі. Аднак праз некалькі крокаў я зразумела, што мы не ідзем у напрамку святліцы. Я сказала аб гэтым хлопцу. Ён маўчаў. Тады я сказала, што далей не пайду. «Хлопец» падставіў мне нагу, і я ўпала... Я баранілася як магла, драпала пазурамі, кусала, шчыпала. Раз укусіла так, што ў яго палілася кроў, і ён мяне ўдарыў па твары. Я пачала плакаць і прасіцца. Падбегла нейкая жанчына і пачала яго біць, а я, устаўшы, памагала. Калі «хлопец» уцёк, я падышла да жанчыны і хацела падзякаваць за ратунак, але яна ўдарыла мяне па твары, назваўшы мяне страшным словам. У гэты момант я даведалася, што жанчына з'яўляецца жонкай «хлопца» і што ў іх двое дзяцей.

Калі мы выйшлі на вуліцу, тут стаялі пажылыя жанчыны, са святліцы выйшла некалькі хлопцаў. Некаторыя з іх пачалі свістаць. Аднак адзін з хлопцаў дапамог мне выклікаць маю сяброўку і мы паехалі дамоў. Я ў суд не падавала, бо і сведкаў не мела апрача жонкі гэтага «хлопца», а, па-другое, мне нічога страшнага не сталася.

Прайшло два гады, і я нават забылася пра ўсё гэта. На трэці год аказалася, што ў мяне на рабоце ўсе аб гэтым ведаюць. Я вельмі спалохалася. Яны нічога не пыталі, але я пачала адчуваць, што іх адносіны да мяне былі ўсё горшыя. Урэшце адзін з супрацоўнікаў назваў мяне такім словам, якім нават жонка гэтага «хлопца» мяне не абазвала. Колькі я тады выліла слёз! Кіраўніцтва не звяртала на гэта ўвагі. Кіраўнік толькі раз запытаў, чаму я такая «апрысклівая», што гэта не пасуе дзяўчыне, што не выйду замуж і г.д. Я нічога не сказала і зноў расплакалася. Зрэшты, што я магла сказаць? Я не ведала, што рабіць, і нічога не зрабіла. Ды і рабіць не мела часу. Я ж тады працавала і вучылася. Дома таксама ў мяне было поўна работы (мамы ў мяне няма). На рабоце гаварылі, што я дрэнны работнік, а я ж старалася як магла, для мяне мая прафесія з'яўляецца найважнейшай справай у жыцці. Кожны дзень прыносіў мне многа гора ў выглядзе розных двузначных і недвузначных «жартаў».

Мінуў нейкі час, і мне нават пачало здавацца, што ўсе неяк аб гэтай справе прызабылі. На дробныя жарты я не звяртала ўвагі, вялікіх не было. Занялася я выключна працай, нікуды не хадзіла. Адчувала сябе горшай ад іншых. Сябры дапамагалі мне ў рабоце, а я ім. Усе, апрача Стася. У яго «жарціках» я адчувала нейкую нянавісць. I аднойчы, пры ўсіх ён сказаў, што я немаральная. Ніхто не звярнуў на гэта ўвагі. Я перастала з ім гаварыць. А ён на гэта не рэагаваў і стараўся гаварыць са мною весела і бесклапотна. Аднойчы я не вытрымала гэтых, па-мойму, здзекаў і ўдарыла Стася па твары, думаючы, што ён нешта скажа. Маўчаў. Я атрымала за гэта дысцыплінарнае пакаранне.

Як быць далей? Што рабіць? На слова мне не верылі, а цяпер, напэўна, думаюць, што я не толькі «немаральная», а яшчэ і «бандытка». Няўжо для мяне ўжо няма месца на свеце?»

*«Немаральная»*

# З КРАІНЫ ЛЕНІНА

## З КРАІНЫ ЛЕНІНА

Закончыўся другі конкурс Ваяводскага праўлення ТППР у Беластоку на ўспаміны аб пабыўцы ў СССР. Першы конкурс называўся «У прыяцеляў», другі з 1970 года — «У краіне Леніна». Журы прызнала першую, дзве другія і трэцюю ўзнагароду. З узнагароджаных прац прыводзім сёння фрагменты.

### У АКРУЖАНЫМ ЛЕНІНГРАДЗЕ...

...няспынна працаваў Інстытут гадоўлі раслін, у якім знаходзілася найбольшая ў свеце калекцыя збожжавых зерняў, аж са 118 краін, разам 100 тысяч гатункаў. Калекцыю гэтую баранілі пад бомбамі і ад бомб працаўнікі інстытута. Ад бомбы загінуў прафесар Малілаг. Ён так аслабеў ад голаду, што сам ужо не мог выйсці з гарэўшага будынка. З голаду памерлі біёлагі др др Энгліс і Іваноў. Голад давёў да магілы яшчэ 28 супрацоўнікаў інстытута. Вучоныя памiралі, але каштоўная калекцыя хлеба была захавана. Што паўстрымлівала руку паміраючых з голаду людзей, каб не браць збожжа сабе ці галодным дзецям?

Пасля вайны гатункамі збожжа з ленінградскага інстытута была абсеяна ўся краіна. Іх насенне атрымалі таксама, Балгарыя, Чэхаславакія, Венгрыя, Польшча. Цяпер ленінградская калекцыя збожжа налічвае 143 тысячы 591 гатункаў і служыць, як даўней, жыццю. *(Веранiка Рыбінская, II)*

* * *

### У МАСКВЕ

Праз старыя кварталы Масквы прасечана новая шырокая артэрыя — Праспект Міру. Вакол яго новыя стройкі і сотні будаўляных машын. Мы кіруемся на выстаўку гаспадарчых дасягненняў СССР. Тут некаторыя губляюцца ў павільёне «Космас». На месцы, на вачах, лекцыя касманаўтыкі і астрафізікі. Цыркарама, панарамічны экран, галавакружэнне. Усё круціцца. Некаторыя жанчыны слабнуць, шукаюць сцяны, каб абаперціся. А вакол цябе ідзе фільм пра прыгожую савецкую зямлю. Я сам спужаўся, калі гейзер на Камчатцы выбухнуў за маімі плячыма. Выходзім на свет з кружэннем галавы ад гэтай супертэхнікі. *(Мечыслаў Крулік, II)*

### У ПЕТРАПАЎЛАЎЦЫ

Па мосце над каналам праходзім з Петраградскай стараны на даўні Заечы востраў і пад скляпеннем брамы ўваходзім у Петрапаўлаўскую крэпасць. Глуха дудняць крокі па цёмных калідорах. Цяжкія дзверы, малыя змрочныя камеры. Нехта са старэйшых з групы выстуквае алфавітам Морзе прозвішча Варынскі. Ён быў тут вязнем.

Як з магілы, вузкімі дзвярыма выходзім на маленькі панадворак з высокімі мурамі. Над ім кавалак неба. Сонца не даходзіць сюды да самай зямлі. Колішняе месца прагулак ледзь трымаючыхся на нагах вязняў. У сваіх запісках Чэрнышэўскі, таксама вязень крэпасці, занатаваў успамін пра вераб'я. Вязні кармілі яго акрушцынамі свайго хлеба, бо верылі, што, як гэтая птушка, так і яны вырвуцца калісь на волю. Месца мала. Наша 30-асабовая група заняла яго амаль у цэласці. Тут вязень, выпушчаны з мрочнай камеры, мог гуляць аж 15 мінут кожны другі дзень, але толькі тады, калі ласкава заслужыў у начальніка крэпасці.

*(Анатоль Батура, I)*

* * *

### НА НЕЎСКІМ

Помню аднойчы, ішла я на слаўны Неўскі Праспект у магазін з цацкамі. Пайшоў густы дождж. Я схавалася ў браме і чакала. Закурыла папяросу. Побач стаялі людзі. Калі выкурыла, недапалак папяросы кінула ў лужыну, якая зрабілася перад брамай. Старэйшая жанчына схілілася, падняла недакурак і кінула яго ў стаячы побач кошык на смецце, якога я, не разглядаючыся, не заўважыла. Ніхто не зразумее, як я сябе ў той час адчувала, але я гэты момант запомню на ўсё жыццё.

Я часта пытала ленінградцаў, ці маючы вакол так многа прыгожага, яны ўсё яшчэ застаюцца ўражлівымі на культуру і парадак. У адказ людзі вялі мяне ў новае месца і паказвалі новыя цудоўныя і чыстыя куткі свайго горада. *(Раіса Баравік, III)*

*Выбрала (вл)*



Пастаноўка п'есы «Бабуля прыехала».

## МАЛАДЫЯ САМАДЗЕЙНІКІ

Актыўна працуюць у мастацкім самадзейным гуртку вучні са школы ў Зубрах, Беластоцкага павета. Падрыхтоўваюць яны самадзейнасць з нагоды святкавання тых ці іншых дзяржаўных свят або знамянальных гадавін. У апошні час школьнікі выступалі на навагодняй ёлцы з п'есай «Бабуля прыехала» Т. Цулукідзе, песнямі, скетчамі і танцамі. Варта дадаць, што з самадзейнікамі найбольш працуе настаўніца Зіна Зарэцкая.

*Тэкст і фота: (яц)*



Танец.



Дзіцячы дзявочы хор спявае «Лявоніху».



Маладыя самадзейнікі з Зубраў.

### ПРЭМІЯВАНЫЯ САМАХОДЫ

У канцы студзеня г.г. адбылося чарговае лясаванне ашчадных кніжак, у выніку якога 15 жыхароў нашага ваяводства атрымалі самаходы.

Дзякуючы ашчадным кніжкам, на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства ўжо 298 жыхароў ездзіць уласнымі самаходамі. (мф)

### ВУЧАЦЦА ФАТАГРАФАВАЦЬ

У школе ў Крыўцы (Гайнаўскі павет) вучні ахвотна займаюцца ў гуртку фотааматараў. Заняткі з фотааматарамі вядзе загадчык школы Міхась Зубрыцкі. Пакуль што вучні маюць тэарэтычныя заняткі, аднак неўзабаве пачнуць яны самастойна фатаграфаваць, рабіць здымкі, а ў будучыні таксама фільмаваць, паколькі ў школе ёсць нават фільмовая камера. (яц)

Пачатак на стар. 1

## СЯРОД СТУДЭНТАЎ

— А чым яшчэ займаецца ваш гурток БГКТ?

— Перш за ўсё настаўляемся мы на культурна-асветную працу, на папулярызацыю прыгажосці нашай літаратурнай мовы. Дзеля гэтага мы апрацоўвалі літаратурныя вечары, прысвечаныя паасобным беларускім пісьменнікам. На нашай просьбе варшаўскі аддзел БГКТ, якому мы арганізацыйна непасрэдна падпарадкаваны, наладжваў сустрэчы з беларускімі аўтарамі, якія жывуць у Польшчы. У рамках грамадскай дзейнасці мы прымалі ўдзел у добраўпарадкаванні могілак — маўзалея савецкіх воінаў, упрыгожвалі іх кветкамі, запальвалі лампадкі.

— Што ў дзейнасці БГКТ здаецца вам найбольш карысным?

— Думаю, што найбольш карыснай для мяне, ды не толькі для мяне, з'яўляецца тая атмасфера свойскасці і непасрэднасці, якая існуе ў клубе варшаўскага аддзела. Калі пераступіш парог на Сенатарскай, дык адчуваеш сябе, як у хаце сваякоў, дык ведаеш, што за гэтымі дзвярыма на першым паверсе чакаюць цябе сябры. Гэта, па-мойму, найважнейшае. — Валя, скажы ты, — адклікаецца яна да сваёй сяброўкі, — праўду я гавару?

— Я магу толькі дадаць яшчэ тое, — кажа Валя, — што таварыства дапамагло нам ацаніць сваю вартасць як чалавека. Пачалі мы навуку ў кастрычніку 1968 года. Абедзве з вёсак. Адчувалі сябе загубленымі ў гушчы вялікага горада. Пра варшаўскі аддзел БГКТ чулі, але не ведалі, дзе яго шукаць. Аднойчы сябра запрапанаваў нам сустрэчу на Сенатарскай і завёз нас туды.

— Цяпер, — выручае яе Вера, — праводзім там амаль кожную суботу і нядзелю.

— Ды і ў іншых днях тыдня раз ці два падскочым туды. Клуб на Сенатарскай стаў амаль што нашым другім домам,— сцвярджае Валя.

— Людзей сюды прыходзіць вельмі многа, часам нават месца ўсім не хапае, — дадае Вера. — Клуб наведваюць студэнты з усіх варшаўскіх вузаў, вайскоўцы, рабочыя, інтэлігенцыя.

— Што вы хацелі б пажадаць Беларускаму таварыству з нагоды яго юбілею?

— Каб надалей паспяхова разгортвала сваю дзейнасць, каб прывівала людзям любоў да свайго, да роднага, каб усюды гучала беларуская мова.

— А як вы намераны дапамагаць таварыству ў ажыццяўленні гэтых сваіх пажаданняў?

— Калі закончу філалогію, вярнуся на Беласточчыну і, несумненна, застануся актывістам БГКТ.

— Прыемна гэта слухаць.

*Гутарку правёў В. Рудчык*

ВАНДРОЎКІ ПА ВАКАЛЬНЫХ І МУЗЫЧНЫХ КАЛЕКТЫВАХ (3)

## ТРАСА ТРЭЦЯЯ: ДУБЯЖЫН — ЯЧНА

Дзве мясцовасці на розных, далёкіх ад сябе, канцах Беласточчыны: Дубяжын у Бельскім павеце, Ячна — у Дуброўскім. У нашых вандроўках прыводзім іх як прыклад нявыкарыстаных вакальных рэзерваў. На іх прыкладзе хочам паказаць і падказаць, як можа марнавацца песня.

Вёскі гэта вялікія, маючыя традыцыі народнага, стыхійнага, неарганізаванага спявання. Іменна неарганізаванага. Калі на Дубяжын ападзе летні святочны змрок і ад лугоў павее прахладай, а ў соннай задуме прыціхне свет, тады за тры кіламетры ляціць песня дубяжынскіх дзяўчат і людзі кажуць: «Дубяжын спявае». Спявае, бо ўмее, хоча, але спявае неарганізавана.

Справа хору і разам з тым аб'яднання дубяжынскіх дзяўчат у адзін калектыў валкуецца, як кажуць, даўно. Часамі яна ўсплывае мацней, часамі прыціхае. Цяпер, калі мы ездзім, справа ўсплыла, і мы звяртаем увагу на рэзервы і патрэбу змены профілю ў беларускім мастацкім культурным руху. Моцна падкрэсліваем патрэбу масавага развіцця рознага роду і рознай велічыні вакальных і музычных калектываў у беларускім руху на вёсцы.

Што можна яшчэ пра Дубяжын сказаць? Калісьці 15 чалавек з Дубяжына прыязджала ў Бельск на рэпетыцыі бельскага хору. 15 чалавек з Дубяжына былі харыстамі бельскага хору, не дубяжынскага — уласнага. Дубяжынскія дзяўчаты не маглі не спяваць, таму і кіламетры з Дубяжына ў Бельск не пужалі іх, як не пужала іх дарога ўначы дамоў. Голас песні вёў іх туды, дзе маглі спяваць. А 15 чалавек — гэта ж не малая група для ўласнага вакальнага калектыву. Чаму не арганізаваліся яны ў дубяжынскую харавую групу?

Паваражы ў цыганкі... скажа табе праўду... скажа, што цябе чакае ў будучыні...» Гэтым назойлівым, манатонным маналогам сустракае нас цыганка — часамі ў парку, часамі на рынку, часамі проста на вуліцы. Як часта ўдаецца ёй знайсці жадаючага паваражыць? Адну асобу на дзесяць? Адну на дваццаць, ці можа яшчэ менш?

Цыганка завецца Ляля. А поўнае яе імя і прозвішча Ляля Квек. Паходзіць з каралеўскага роду Квекаў. З роду цыганскіх каралёў.

Сустракаюся з цыганкай Ляляй не ў парку, не на кірмашы і не на вуліцы. Сустракаюся ў дзяржаўнай установе. I не з'яўляюся яе кліентам, а яна маім. Цыганка гаворыць праўду. «Сапраўдную» праўду. Не аба мне аднак, а аб сабе. I не з карт, якія носіць у кішэні. а з карт свайго жыцця.

Сумная гэта праўда. Цыганцы Лялі 29 гадоў. У яе пяцёра дзяцей — хворыя яны, абдзертыя, занядбаныя ў школе. Найменшае дзіцё мае толькі два годзікі. I сама Ляля хворая. Лечыцца ўжо некалькі гадоў у анкалагічным амбулансе. Варажэнне абрыдла ёй ужо даўно.

— Абрыдла ўжо так, — кажа Ляля, — лазіць па рынку — і ў мароз, і ў непагоду, ды дакучаць людзям. Усё менш людзей цяпер варожыць. Лепш было б на нейкай рабоце, працаваць у цяпле, мець пастаянны заработак.

Ясна. Але хто прыме хворую цыганку на работу? Цыганку — без прафесіі, не ўмеючую ні чытаць, ні пісаць, без ніякай падрыхтоўкі да жыцця ў грамадстве?!

Мусіць тады цыганка надалей, як дзесяткі гадоў таму назад, жыць з варажбы, пракарміць за гэта сябе і сваіх пяцёра дзяцей. Ды яшчэ адну асобу — мужа — дармаеда.




Муж цыганкі Лялі — здаровы, прыстойны мужчына, вядзе сапраўды жыццё па-цыганску бестурботнае. Не запляміўся ён ніколі аніякай працай, ані клопатамі аб хворай сваёй жонцы. Раніцою чакае, пакуль жонка наварыць, дасядзецца да міскі, акалоціць, апранецца ў прыгожы каляровы світар, у модныя туфлі і ідзе недзе пагуляць, скажам, у пінг-понг. I так плыве яго цыганскае жыццё — гладка і без турбот.

— Ці нельга, — запытаеце, — мужа цыганкі Лялі прымусіць да работы, ці прынамсі да таго, каб не пазбаўляў ён жонкі і сваіх дзяцей апошняга кавалка хлеба?

Аказваецца аднак, што нельга. Нельга таму, што цыганы надалей прызнаюць законы свайго плямённага цыганскага права — дзікага і драконскага, асабліва ў адносінах да жанчын. Ляля не можа нават старацца, каб муж яе плаціў ёй аліменты. Бо так у сапраўднасці, паводле абавязваючага ў нас права, муж Лялі Квек не з'яўляецца яе мужам. Не маюць абавязваючага ў нас урадавага шлюбу.

Усё адбылося ў іх зусім па-цыганску. Ляля не думала выходзіць за яго замуж. Бацькі таксама не думалі аб гэтым. Было гэта яшчэ ў табары, недзе ў лесе. Аднойчы нечакана і знянацку цыганы з іншага табару на чале з яе будучым мужам накінуліся на Лялю, схапілі і павезлі яе з сабою. Адбылася практыкаваная па сённяшні дзень сярод цыганоў кража будучай жонкі. Цыганскае права кажа, што калі на працягу трох дзён бацькі ці блізкія ўкрадзенай не знойдуць яе — стане яна ўласнасцю ўкраўшага яе, а менавіта яго жонкаю.

Ляля стала жонкаю. Паплакала крыху, панаракалі бацькі, але што зрабіць... На старыя цыганскія законы няма рады. Няма на іх і зараз рады. Паедзе Ляля да бацькоў мужа, панаракае — спачуваюць. — Ну але што з ім зробіш, лодырам? — гавораць. Ляля часамі злуецца: падам у суд, у міліцыю. Цыганы грозна ківаюць галовамі — паспрабуй! Вядома, што, як свет светам, а цыганскі род цыганскім родам, не было выпадку, каб цыган на цыгана падаваў у міліцыю, ці каб цыган з цыганом судзіўся. За гэта ў цыганскім родзе пагражае самасуд.

Як вядома, улады шмат увагі прысвячаюць пераходу цыган да нармальнага грамадскага жыцця. Ёсць указанні аб неабходнасці пераходу цыган з жыцця ў табары да асядлага жыцця. Ёсць указанні для паасобных установаў аб неабходнасці дапамогі цыганам пры гэтым іх пераходзе.

У многіх аднак выпадках цяжка ім дапамагчы ў чым-небудзь. У выпадку Лялі ўсялякай матэрыяльнай дапамогай карыстаецца перш за ўсё яе муж-дармаед.

Цыганку Лялю можаце сустрэць у парку або на кірмашы з калодай карт у руцэ. Мае выгляд вясёлай, усміхнутай цыганкі. Але так толькі здаецца. Ляля даўно хацела б кінуць карты і жыць так, як яе равесніцы — не цыганкі. Даўно развіталася са шчасцем цыганскага табару. З'яўляецца адной з апошніх (мейма надзею) ахвяр цыганскіх плямённых звычаяў і правоў.

*Ул. Паўлючук*

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

Юрыдычны кансультацыйны пункт, які існуе пры нашай рэдакцыі, у апошні час перагружан наведвальнікамі. Каб аблегчыць працу нашага самаахвярнага кансультанта Вінцука Склубоўскага (вядзе кансультацыю грамадскім чынам) і адначасова не абмежаваць дапамогі сваім чытачам, мы вырашылі адкрыць спецыяльную рубрыку, у якой наш юрыдычны кансультант будзе даваць адказы на хвалюючыя чытачоў пытанні.

Пішыце тады да нас, дарагія чытачы, ва ўсіх справах, у якіх патрабуецца парада юрыста. Кожны з вас атрымае адказ. Калі не пажадаеце, каб ён быў змешчаны на старонках «Нівы», атрымаеце адказ у пісьме. Надалей таксама ў кожны панядзелак ад 11 да 12 гадзін наш кансультант будзе прымаць наведвальнікаў у «Ніве».

*Шаноўная Рэдакцыя!*

*Звяртаюся да Вас з просьбай даць мне параду ў наступных справах:*

*1. 10 год я з'яўляюся пенсіянерам. Дагэтуль у мяне была другая група, але 16 лістапада 1970 г. ОКіЗ у Беластоку залічыў мяне ў першую інвалідскую групу. У сувязі з гэтым, ці належыцца мне змена пенсіі? Дагэтуль я атрымліваю, так як атрымліваў раней, 850 зл.*

*2. Паколькі я залічаны да першай групы, мне належыцца апякун. Вытлумачце мне, ці маці, якая апякуецца мною (ёй 56 год) і фактычна знаходзіцца на маім утрыманні, можа атрымаць «убеспечанёвую» кніжачку. Яна хворая, і я плачу за яе лячэнне.*

*3. Ці ёсць нейкія ільготы для пенсіянераў у аплачванні радыё-тэлевізіі?*

*Уладзімір Казлоўскі, Плёскі*

1. Пенсіі ў I і II групах аднолькавыя, толькі тым, хто залічаны ў I групу, належыцца дадатак 300 зл. у месяц. Гэты дадатак належыцца і вам.

2. Маці вашай прыслугоўваюць такія ж правы, як і вам.

3. Такіх ільгот няма.

Беларуская ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

## ЛІТАРАТУРА КІЕЎСКАЙ РУСІ

ПАЛОМНІЦКАЯ ЛІТАРАТУРА. Назва жанру паходзіць ад слова — паломнік. Паяўленне гэтага тэрміну ў старарускай мове было, мабыць, звязана з падарожжамі ў Палесціну. Падарожнікі гэтыя на пацвярджэнне сваёй прысутнасці ў Палесціне прывозілі адтуль галінкі пальмы. Ад пальмы, мабыць, выводзіцца назва «паломнік». Даволі часта паломніцкая літаратура называецца «хаджэннямі».

Вандроўкі ў Палесціну ў перыяд Кіеўскай Русі мелі наогул рэлігійны характар. Людзі духоўнага, а часам і свецкага стану галоўную мэту свайго жыцця бачылі ў наведанні міфічнай магілы Хрыста ў Палесціне. Рух вандроўцаў на Блізкі Усход прымаў даволі масавы характар. Тагачасныя дзяржаўныя і царкоўныя ўлады стараліся абмежаваць гэты рух. Чаму? Мабыць, таму, што паломнікі вывозілі з Русі нямала золата, якое было самым дасканалым сродкам плацяжу за мяжой. Зрэшты, кожны паломнік лічыў сваім гонарам пакінуць на магіле Хрыста нейкі каштоўны прадмет, які таксама найчасцей быў выкананы з золата.

Зразумела, што грамадная большасць паломнікаў не пакінула ніякіх літаратурных слядоў сваіх падарожжаў. Некаторыя аднак спісалі свае ўражанні. Вядома, што толькі нямногія з гэтых дакументаў захаваліся. Найцікавейшымі помнікамі паломніцкай літаратуры з'яўляюцца: «Хаджэнне Ігумена Даніла», «Хаджэнне Ігнація Смаляніна», «Хаджэнне Варсановія».

Першае месца займае, несумненна, «Хаджэнне Даніла». Аўтар твора не толькі схадзіў у Палесціну, але і пражыў у ёй два гады. Падарожжа гэтае адбывалася ад 1106 да 1108 года. Вярнуўшыся, Даніл спісаў усе свае ўражанні. Няма аднак сумненняў, што ўжо ў час прабывання ў Палесціне рабіў ён нататкі, якія ляглі ў аснову напісанага пазней «Хаджэння».

Даніл быў, несумненна, чалавекам з задаткамі архітэктара, географа, палітыка, этнографа, бо назіранні, звязаныя з усімі гэтымі галінамі, адлюстраваліся ў яго творы. У Даніла было нямнога рыс, характэрных для аскетычных рэлігійных паломнікаў, якія былі сляпымі на ўсё, што не датычыла рэлігіі. Даніл, хаця і быў чалавекам царквы, меў адкрытыя вочы на ўсе праявы жыцця і рэчаіснасці. Калі заходзіў у мясцовыя святыні, дык не толькі маліўся, але вокам дойліда прыглядаўся да архітэктуры, акрэсліваў у локцях размеры святыні, лічыў вокны і дзверы, характарызаваў матэрыялы, з якога зроблены будынак.

Іерусалім — горад, якому прысвяціў Даніл найбольшую ўвагу, быў у часе падарожжа нашага Ігумена заняты ўдзельнікамі крыжовых паходаў. Іх правадыр Балдуін прымаў Даніла прыязна, дапамагаў яму падарожнічаць па Палесціне. Цяжка сказаць, ці лічыўся ён з аўтарытэтам Кіеўскай Русі, ці з валютнымі запасамі Даніла. Балдуін меў, несумненна, падставы думаць, што Даніл чалавек не бедны. Асабліва тады, калі ігумен, паўзучы, мабыць, на каленях, паставіў на магіле Хрыста залатое кадзідла — дар усёй рускай зямлі, князяў і праваслаўнай царквы.

Кадзідла, паводле Даніла, самастойна загарэлася. Гэты, несумненна, выдуманы Данілам факт быў для яго адназначны з прыхільнымі адносінамі бога да рускіх земляў.

Вялікае ўражанне зрабіла на ігумена рака Іярдан. Хадзіў ён на яе берагі некалькі разоў. Зрэшты, не абмежаваўся толькі агляданнем ракі. Пакаштаваў ваду, залез у яе і змерыў шырыню ды глыбіню ракі. Ізноў схільнасць вучонага ўзяла верх над духоўным. Вада Іярдана паказалася Данілу «мутная і салодкая», але была гэта вада святая і ад яе ніколі не здарылася «ні хваробы, ні пакасці ў жываце чалавека». Тут ўзяў верх духоўны над даследчыкам.

Хаця б ужо з прыведзеных фактаў бачым, што ў «Хаджэнні» суіснуюць побач элементы аб'ектыўнай інфармацыі з элементамі фікцыі, рэлігійнай схаластыкі, іррацыяналізму. Ды інакш і быць не магло. Быў жа гэта пачатак далёкага XII ст.

Аб'ектыўная інфармацыя ў «Хаджэнні» засталася істотнай да сёння, фікцыя ўспрымаецца зараз як своеасаблівая паэзія. Адно і другое мае сваю вартасць. Даследчыкі старажытнасці не раз звярталіся і звяртаюцца да «Хаджэння Даніла». Аб важнасці гэтага твора сведчыць, між іншым, той факт, што перакладзены ён на грэчаскую, французскую, нямецкую і іншыя мовы.

«Хаджэнне» дайшло да нас амаль у ста спісках. Самы ранні з іх адносіцца да XV ст.

Другім помнікам паломніцкай літаратуры з'яўляецца «Хаджэнне Ігнація Смаляніна». Гэты смаленскі дзячок быў выхадцам з беларускіх зямель. Некалькі разоў прабываў на Блізкім Усходзе. Не вярнуўся, зрэшты, на радзіму, памёр на чужыне, бадай у 1406 годзе.

Смалянін, здаецца ведаў «Хаджэнне Даніла. Стыль Даніла падабаўся Ігнацію, і таму ў сваім творы ён шырока выкарыстоўвае мастацкія прыёмы свайго папярэдніка. Не значыць гэта, што «Хаджэнне Ігнація» пазбаўлена творчага арыгінальнага характару. Арыгінальнасць праяўляецца перш за ўсё ў апісаннях Візантыйскай імперыі. Ігнацій па-

# ТРЫБУНА чытачоў

Абавязацельства гуртка ЗМВ

## НА 100 КГ МЯСА І ЗБОЖЖА БОЛЬШ

**Гурток Саюза вясковай моладзі (ЗМВ) у Круглым Ляску (Беластоцкі павет) на сваім сходзе 27.І.1971 года прыняў вельмі каштоўнае абавязацельства.**

**У сваім лісце да ваяводскага праўлення ЗМВ у Беластоку моладзь рапартуе:**

**У адказ на заклік гарнякоў і металургаў, які датычыць паляпшэння гаспадарчай сітуацыі ў краіне, члены ЗМВ з Круглага Ляска прынялі абавязацельства прадаць дзяржаве ў 1971 годзе на 100 кг мяса і 100 кг збожжа больш, чым у 1970 годзе.**

**Члены гуртка ЗМВ у Круглым Ляску.**
**Ніжэй 13 подпісаў**

### НА КАРЫСЦЬ ГОРАДА

Бельскае рамонтна-будаўлянае прадпрыемства многа робіць на карысць горада. Кожны год праводзіць капітальны рамонт у сярэднім у 10-ці будынках, у якіх паляпшаюцца бытавыя ўмовы для 30-ці сем'яў.

Гэтае прадпрыемства два гады таму назад найбольш працы ўлажыла ў пабудову «мушлі» — цэнтра культурных мерапрыемстваў на вольным паветры. У мінулым годзе пабудавала яно прыгожы гандлёвы павільён для «мотазбыту», а таксама пачало працы пры будове бельскага дома культуры. (мм)

### У ГРАМАДЗЕ СТАРЫ КОРНІН

У Старым Корніне няма святліцы. А яна неабходная. Жыхары вёскі вырашылі ў гэтым годзе яе пабудаваць. Ад кожнага гаспадара сабралі па 200 зл. Апрача гэтага, нашыя сяляне будуць працаваць грамадскім чынам пры капанні і заліванні фундамента. Спулдзельня прадукцыйная дала трактар, якім можна прывезці гравію і каменняў. Павятовае праектнае бюро выканала грамадскім чынам дакументацыю на будову святліцы на суму 11.120 зл. Галоўнымі арганізатарамі будовы з'яўляюцца Янка Гаўрылюк, Алёша Тамашук, Валодзя Шэшка, Кастусь Яканюк і Зотнік Казіміpук.

* ✲ *

Жыхары грамады Стары Корнін (Гайнаўскі павет) прадалі дзяржаве ў мінулым годзе 1.290.524 літраў малака.

* ✲ *

У мінулым гаспадарчым годзе ГРН выканала план куплі мінеральных угнаенняў у 120%, а план кантрактацыі збожжа ў 104%. На план 390 га закантрактавана 405,6 га.

* ✲ *

У Старакорнінскай грамадзе жыхары карыстаюцца 141 радыёпрыёмнікам і 59 тэлевізарамі.

*Васіль Сегень, Стары Корнін*

### САМАДЗЕЙНІКІ З ПАРЦАВА

У вёсцы Парцава існуе ўжо пяты год гурток ЗМВ. Згуртоўвае ён усю моладзь вёскі. Некалькі дзён таму назад члены ЗМВ арганізавалі ў мясцовай пачатковай школе вечарыну. На вечарыне дзяўчаты выступілі з беларускімі песнямі, а драмгурток з п'есаю «Конская кніжка». Выступленне моладзі на вечарыне з артыстычнай часткай выклікала вялікае і прыемнае ўражанне сярод жыхароў вёскі, якія прыйшлі сюды. Пасля артыстычнай часткі адбылася забава, на якой была нават моладзь з суседніх вёсак. Я. П.

## Сардэчныя ТАЙНЫ

*Дарагое Сэрцайка!*

Мне 17 год. Вучуся я ў сярэдняй школе. Да школы даязджаю. Разам са мной ездзіць у школу хлапец з суседняй вёскі. Ён таксама ў другім класе, толькі не «агульняка», а тэхнікума. Юрэк мне вельмі падабаецца. Мы ўсё часцей выязджалі з горада пазнейшым ПКС-ам, бо хадзілі ў кіно, або кавярню. І ўсё было б добра, каб не двойкі, якія паявіліся ў маім дзённіку. А мяне дагэтуль лічылі добрай вучаніцай. Калі даведаліся аб гэтым мама і тата (быў бацькоўскі сход), вельмі накрычалі на мяне. Аднак я не сказала, чаму так стала, хоць мяне і на гэтую тэму распытвалі бацькі. Я абяцала ім, што выпраўлю двойкі на чацвёркі (як перад гэтым бывала). Першыя дні я старалася не глядзець і не размаўляць з Юркам. Аднак ён не адступаў. Мы ізноў разам, толькі ўжо не застаемся на другі ПКС, бо я баюся бацькі. Але я кахаю сапраўды Юрка і не маю сіл з ім парваць сяброўства. Напішы мне, Сэрцайка, што рабіць, як паступіць?

*Люся з Б.*

*Люся!* Спачуваю табе і веру, што табе нялёгка, што падабаецца Юрка, а вучыцца ж трэба. Вядома, у тваім узросце паяўляюцца ўжо пачуцці, якія часта здаюцца вельмі ж сапраўднымі, выключнымі, адзінымі. Аднак праз нейкі час дзяўчына пачынае разумець, што гэта былі толькі першыя пачуцці яе маладога сэрца. Павер мне, Люся, што сапраўднае каханне яшчэ сустрэнеш, таму і раю табе не пераймацца Юркам замнога, а лепш узяцца добра за навуку. Хай там і надалей падабаецца табе Юрка, толькі глядзі, каб гэта не перашкодзіла табе ў навуцы. Адным словам, на першым месцы пастаў навуку, на другім — Юрку.

Жадаю поспехаў у навуцы.
*Сэрцайка*

### ВЕСТКІ З МІХАЛОВА

Дом культуры ў Міхалове знаходзіцца ў рамонце, але ўжо аддадзены ў карыстанне адзін зал, у якім кіраўнік дома культуры Рышард Верабей і інструктар Мікалай Баўтручук арганізавалі 27 студзеня г.г. дэкламатарскі конкурс. У конкурсе прыняло ўдзел 13 асоб (у тым ліку 9 асоб — гэта вучні агульнаадукацыйнага ліцэя і засаднічай школы завадовай).

Узнагароды, якія прызначыла культурна-асветная парадня прэзідыума павятовай рады народовай, атрымалі ўсе ўдзельнікі конкурсу.

У катэгорыі школьнікаў першае месца заняла Ірэна Трахімчук, другое — Людміла Налівайка, трэцяе — Тэрэса Шымусюк. Усе яны прымуць удзел у павятовых элімінацыях, якія адбудуцца ў сакавіку.

Тры спецыяльныя ўзнагароды, якія прызначыў старшыня прэзідыума ГРН у Міхалове тав. Баляслаў Баршчэўскі, атрымалі Ірэна Трахімчук, Галіна Герасімчук і Барбара Масна з Саколля. Яны прымуць удзел у павятовых элімінацыях у катэгорыі агульнай.

Наогул трэба сказаць, што конкурс быў удалым мерапрыемствам і ўзбудзіў зацікаўленне сярод жыхароў Міхалова.

Варта дадаць, што Дом культуры ў Міхалове пачынае шырокую культурную дзейнасць. Кіраўнік і інструктар дапамагаюць гуртку БГКТ у Пяньках у падрыхтоўцы да конкурсу на найлепшы драмгурток.

* ✲ *

28.І.1971 г. адбылася аўтарская сустрэча беларускага паэта Алеся Барскага з моладдзю агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове.

На сустрэчу, якая адбылася ў цёплай і прыемнай атмасферы, прыбыло больш 100 вучняў, а таксама настаўнікі беларускай і рускай мовы.

Паэт вельмі цікава расказваў аб сваім жыцці і творчасці, а таксама прачытаў многа сваіх вершаў, якія ўсе слухалі з зацікаўленнем.

У канцы сустрэчы адбылася дыскусія. Вучні задавалі розныя пытанні, на якія Алесь Барскі ахвотна адказваў. Многія вучні купілі ў гэты дзень зборнік яго вершаў «Жнівень слоў».

Варта дадаць, што такія аўтарскія сустрэчы дапамагаюць пазнаць лепш жыццё і дзейнасць беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, а таксама лепш пазнаць беларускую літаратуру, таму павінны яны быць арганізаваны як найчасцей і ў як найшырэйшых асяроддзях.

* * *

У вёсках грамады Міхалова адбываюцца заняткі па сельскагаспадарчай падрыхтоўцы на тэму развіцця жывёлагадоўлі. Вядзе іх заатэхнік Тэрэса Чарняўская. Лекцыі на гэту тэму адбыліся ў Кабылянцы, Масцісках, Азяблах і Пяньках.

*Валя Філіпюк, Беласток*

### ДЗЕЯЧ З ТАРНОПАЛЯ

Янку Бірыцкага з Тарнопаля ведаюць не толькі ў сваёй вёсцы. Янэк — гэта малады селянін, яму нядаўна мінула 23 гады. Гаспадарыць ён разам з бацькамі на пяцігектаровым участку не найлепшай зямлі. Дык ад ранняй вясны да позняй восені, пакуль не ўмерзне зямля, ён працуе ў сельскагаспадарчым гуртку трактарыстам. Зімой, калі жалезнаму каню няма работы ў полі, Янэк ходзіць на работу на недалёкай чыгунцы ў Семяноўцы. Усе вольныя хвіліны ён прысвячае грамадскай дзейнасці. Ужо чатыры гады ён з'яўляецца старшынёй гуртка Лігі абароны краіны ў Тарнопалі. Тут штомесяц адбываюцца заняткі гуртка ЛОК на тэму самаабароны краіны. Адбываюцца таксама заняткі па стральбе. Да найлепшых стралкоў гуртка належыць: Мікалай Лаўрашук, Мікалай Васько, Янка Бура і Марыся Бельская.

Моладзь гуртка арганізуе танцавальныя вечарынкі, згадуй-згадулі, дбае аб парадку ў сваёй вёсцы і г.д. За актыўную дзейнасць ваяводскае праўленне Лігі абароны краіны ў Беластоку ў мінулым годзе прызнала старшыні гуртка Янку Бірыцкаму бронзавую адзнаку «Заслужаны дзеяч ЛОК».

*Янка Бура, Беласток*

нуць у будучыні. Імкнуцца будзем да супрацоўніцтва і дзейснага ўдзелу ўсіх краін, вялікіх і малых, народы якіх, таксама як і нашы, у сэрцы і думцы прагнуць знішчыць тыранію і нявольніцтва. Гасцінна іх прымем, калі вырашаць уступіць у сусветную сям'ю дэмакратычных краін.

Ніякая сіла ў свеце не можа нам перашкодзіць знішчаць нямецкія арміі на сушы, іх падводныя лодкі на моры і іх ваенныя фабрыкі з паветра. Нашы атакі будуць бязлітасныя і будуць усё больш узрастаць.

Закончыўшы нашы сяброўскія нарады, чакаем з надзеяй дня, калі ўсе народы свету будуць жыць свабодна, вольныя ад тыраніі, згодна з рознымі імкненнямі і сваім сумленнем.

Мы прыбылі сюды з надзеяй і непарушнай рашучасцю. Адыходзім як сапраўдныя сябры ў душы і ў мэтах.

Рузвельт
Сталін
Чэрчыль

Падпісана ў Тэгеране 1 снежня 1943 года».

*(Заканчэнне праз тыдзень)*

*Оля Грыгарук найбольш часу прысвячае матэматыцы.*

### РЫХТУЮЦЦА ДА ЭКЗАМЕНАЎ

10 мая вучні IV-ых класаў агульнаадукацыйных ліцэяў будуць здаваць матуральныя экзамены. А хто не прыступіць да матуры, атрымае пасведчанне аб заканчэнні сярэдняй школы і зможа паступіць у 2-гадовыя паматуральныя школы. Усе вучні IV-х класаў Бельскага беларускага ліцэя прыступяць да матуральнага экзамена. Зараз гарачы час у нашых вучняў. Усе пільна рыхтуюцца да экзаменаў.

*Вера Ахрымюк, Бельскі ліцэй*

### ВОДЗІЦЬ ЗА НОС

У вёсцы Ляхі, што на Гайнаўшчыне, жыве Ніна Бенадычук, якая займаецца вырабам кілімаў. Кілімы вырабляе яна прыгожыя, і таму людзі іх ахвотна ў яе заказваюць. Аднак, калі прыйдзе чарга атрымаць заказаны кілім, тады яна пачынае вадзіць людзей за нос. Яна зробіць і прадасць кілім. І так ходзяць па кілімы людзі год і два, а нават і тры. Цікава, як доўга яна будзе «надуваць» людзей?

*«Чытач» з Гайнаўскага павета*

### КАНЮКОЎСКІЯ КАРОБКІ

У Канюках звычайная салома прымае вартасць амаль што залатых нітак. З саломы робяць жыхары рознага роду каробкі. Ды робяць тут усе: старыя і малыя, днём і вечарам. Каробкі, зробленыя ў Канюках, ідуць на экспарт далёка за межы нашай краіны. Вырабы з саломы прыносяць гаспадарам значныя даходы. Першы ў вёсцы пачаў плесці каробкі Вакіла Філіпюк. Пачаткова з яго некаторыя насмейваліся. — Вось дык работу знайшоў, — гаварылі яны. Потым пачалі займацца гэтым іншыя гаспадары, а зараз кожная хата прадстаўляе сабою маленькае саматужнае прадпрыемства. Дзякуючы гэтай працы, у Канюках людзі пачалі лепей жыць. Тут маюць ужо шмат тэлевізараў, пралек і прыгожай мэблі.

*Чытач «Нівы»*

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Dialog" (węgierski), 23—24. „Niezawodni przyjaciele" (rumuński) 25—26. „Jarzębina czerwona" (polski), 27—28.

**НАРАЎКА**

„Grzech Azizy" (ZRA), „Pali się moja panno" (czeski), 24—28.

**НАРВА**

„Hugo i Józefina" (szwedzki), „Raj na ziemi" (polski), 24—28.

**ЧЫЖЫ**

„Powrót rewolwerowca" (USA), „Zbyszek" (polski), 24—28.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Nie drażnić cioci Leontyny" (franc.), „Ostatni świadek" (polski), 24—28.

**АРЭШКАВА**

„Sąsiedzi" (polski), „Zwiadowca" (radz.), 27—28.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Szlacheckie gniazdo" (radz.), „Polowanie na muchy" (polski), 27—28.

**ОРЛЯ**

„Płomień nad Adriatykiem" (jugosł.), „Taszkient miasto chleba" (radz.), 24—28.

**РАЙСК**

„Gra" (polski), „Zabawa w masakrę" (franc.), 24—28.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Żenią, Żenieczka i Katiusza" (radz.), 23—24. „Życie raz jeszcze" (polski), 25—26. „Ucieczka w kajdanach" (USA), 27—28.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Miłosne kłopoty" (radz.), 23—24. „Wyzwanie dla Robin Hooda" (ang.), 25—26. „Jarzębina czerwona" (polski), 27—28.

**ЯНАЎ**

„Labirynt miłości" (rumuński), 24—28.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Człowiek z fotografii" (jugosł.), 23—24. „Stopień ryzyka" (radz.), 25—26. „Los Golfos" (hiszpański), 27—28.

**МЕЛЬНІК**

„Pod karnawałową maską" (kubański), 23—24. „Słoń Maruda" (ang.), 25—26. „Mrok za dnia" (węgierski), 27—28.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Rozwód z miłości" (węgierski), 23—24. „Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.), 25—26. „Prom" (polski), 27—28.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Gang Olsena" (duński), „Na los szczęścia Baltazarze" (franc.), 24—28.

**НОВЫ ДВОР**

„Koniec agenta W4C" (czeski), „Na miłość nigdy nie jest za późno" (jugosł.), 27—28.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportążu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7000 E-3

Іх было трое, а праблема — адна. Пакуль што ніякае рашэнне не даспявала. Іван, Гаўрыла ды Міхась — старшыня, яго намеснік і член рады завадскога бюро рацпрапаноў — ужо сотню варыянтаў перабралі, некалькі пачак папяросаў выкурылі, але выратавальная думка не нараджалася.

Іван паглядзеў на гадзіннік і сумна паківаў галавою:

— Эх, усё прапала...

— А такая ж задума цудоўная, — дадаў Гаўрыла.

— Слухайце! — сарваўся з крэсла Міхась. — А як так зробім?..

І ён унёс сваю рацпрапанову.

— Брава! — гукнуў Іван. — Ты — геній! Давай сюды... Хто там у нас найбольш кемлівы рацыяналізатар?

— Вядома, Васіль, токар...

— Клічце.

— Прыйшоў Васіль.

— Ну, Васіль, што-небудзь прыдумаў?

— Ёсць ідэя, але, гэтак кажучы, у зародку яшчэ, — сказаў Васіль. — Нешта круціцца-верціцца, а вось схапіць ніяк не магу...

# РАЦПРАПАНОВА

— Ну-ну, раскажы, што яно там круціцца-верціцца? — жвава зацікавілася тройка. — Мо, гуртам, га, скруцім той ідэі рогі? Ведаеш, адна галава — ого! А чатыры — гэта ўжо ого-го-го-го!

Васіль коратка выклаў сэнс задумы.

— Усё! Малой! — Іван радасна падсунуў дошку да рысавання. — Цудоўная прапанова! Эканамічны эфект — будзь здароў! Толькі...

І тройка напераБой унесла свае папраўкі і дапаўненні.

Іван зноў паглядзеў на гадзіннік.

— Часу малавата! Годзе, таварышы! Законным заўтра. А зараз, Гаўрыла, хутка афармляй гэту справу і выпісвай прэмію... Гм... на чатырох. Ды хутчэй, бо каса зачыніцца.

Тройка моцна пацісн,ула руку збітаму спанталыку Васілю.

— Мы думаем, — сардэчна сказаў Іван, — наш сябар, наш дарагі калега і суаўтар не супраць калектывізму?

...Праблема: за што вечарам пасядзець у рэстаране была паспяхова вырашана.

*А. Кацюбінскі*





# НІЎКА

*Кожнаму свае.*

## Талавaломка



Фігуру падзяліце на чатыры роўныя часткі, каб у кожнай з іх змяшчаліся толькі два кружкі.

* * *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 3 | 7 | 2 | 4 | 6 |
| 4 | 8 | 2 | 9 | 2 | 8 |
| 5 | 2 | 5 | 1 | 5 | 6 |
| 9 | 1 | 6 | 7 | 2 | 8 |

### ЛІШНІ РАЗ УКУСІЎ

Ішлі галодныя цыган і мужык. Знайшлі пірог. Пачалі дзяліць. А нажа ў іх не было, каб роўныя палавіны разрэзаць.

Тады цыган і кажа мужыку:

— Давай так зробім... Ты адзін раз укусіш — я раз укушу, ты раз — кусь, я раз — кусь, ты кусь — я кусь кусь...

Пасля апошніх слоў мужык як трэсне цыгана па патыліцы.

— За што ж ты мяне? — узвыў цыган.

— А за тое, што два разы кусаў.

### ПОГЛЯД У БУДУЧАЕ

З прамовы на сходзе свежаспечаных выпускнікоў лонданскай школы:

«Цікава, ці пазнаем мы адзін аднаго праз 10 гадоў. Відаць, ніводзін з нас не будзе ўжо насіць барады».

### КОЛЬКІ

— Пятрусь, колькі вас усяго ў мамы?

— Дзевяць.

— Дык ты не самы старэйшы?

— Не, самы старэйшы дзядуля.

### ПА ЧЫМ

— Скажы, па чым ты адрозніваеш старую курыцу ад маладой?

— Па зубах.

— Але ў курыцы няма зубоў!

— Так, але ж яны ёсць у мяне.

### ДУМАЎ

— Гэта нечувана, — крычыць гаспадар на свайго работніка. — Ты прэшся ў лазню нават не пастукаўшыся.

— Прабачце, калі ласка, — апраўдваецца работнік, — я думаў, што гэта мыецца гаспадыня.

### З АНГЛІЙСКАГА

— Мама, а гэтыя амерыканскія салдаты разумеюць англійскую мову?

— Вядома, сынок, разумеюць. Гэта ж іх родная мова.

— А чаму ж яны тады не могуць прачытаць, што на сценах напісана: «Янкі, вяртайцеся дадому!»

### ЗГУБІЎ СЯБРА

— Чаму гэта Міша пры сустрэчы з табою пераходзіць на другі бок вуліцы? Ці не пакрыўдзіў ты яго? — пытаецца жонка ў мужа.

— Наадварот, я яму пазычыў грошай.



*— Мама, купі мне гэту лялькі, што спіць.*

*— Ціха! Гэта ж прадаўшчыца.*

### СЯРОД ВУЧОНЫХ

Эдысан скардзіўся Эйнштэйну, што ніяк не можа знайсці сабе памочніка. Кожны дзень бываюць маладыя людзі, але ніводзін не падыходзіць. «А як вы вызначаеце іх прыгоднасць?» — спытаў Эйнштэйн. Эдысан паказаў яму лісток з пытаннямі. «Хто на іх адкажа, той і стане маім памочнікам». «Колькі міль ад Нью-Йорка да Чыкага?» — прачытаў Эйнштэйн і адказаў: «Трэба паглядзець у чыгуначны даведнік». «З чаго робяць нержавеючую сталь?» «Аб гэтым можна даведацца з даведніка па металазнаўству». Прабегшы вачыма астатнія пытанні, Эйнштэйн сказаў: «Не чакаючы адказу, сваю кандыдатуру зні-маю сам».

### ВІНАВАТЫ

— Доктар, сёння я ўсю ноч не мог заснуць, нават ні разу вочы не заплюшчыў...

— Сам вінаваты: ніхто з незаплюшчанымі вачыма не спіць.



*— А не падабаецца, дык ідзі адсюль прэч!*

### ШТО ЗДАРЫЛАСЯ

— Адзін чалавек скардзіцца сябру:

— Ой, даражэнькі, як галава баліць!

— Захварэў?

— Не.

— У такім разе, што ж здарылася?

— Хачу на работу заўтра не пайсці, а нічога прыдумаць не магу.



### У АКУЛІСТА

— Доктар, я ўвесь час бачу перад вачыма мільгаючыя кропкі, — скардзіцца хворы акулісту.

Лекар прапісаў акуляры. Праз некалькі дзён хворы зноў прыходзіць.

— Лепей вам? — пытае доктар.

— Вядома, цяпер я бачу мільгаючыя кропкі куды выразней.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Надзі і Валі Астапчук з вёскі Фольваркі Тыльвіцкія, Беластоцкага павета, змяшчаем песню:

## PŁYNIE WISŁA, PŁYNIE




Muzyka: melodia ludowa
Opr.: Wojciech Korda

Płynie Wisła, płynie po polskiej krainie,
po polskiej krainie.
Zobaczyła Kraków, pewnie go nie minie,
zobaczyła Kraków, pewnie go nie minie.

Płynie Wisła, płynie po polskiej krainie,
po polskiej krainie.
Płynie przez Warszawę, pewnie wnet ją minie,
płynie przez Warszawę, pewnie wnet ją minie.

Płynie Wisła płynie, o drogę nie pyta,
o drogę nie pyta.
Płynie aż do Gdańska z morzem się przywitać,
płynie aż do Gdańska z morzem się przywitać.

### У МАГАЗІНЕ

Маладая мама зайшла з маленькім хлопчыкам у магазін і купіла сыну паліто. Толькі яны выйшлі з магазіна, як лінуў дождж, і паліто на хлопчыку адразу селася — стала кароткім.

Калі яны вярнуліся ў магазін, прадавец усклікнуў:

— Дзіўна, як хутка ў наш час растуць дзеці...



Век пары не прайшоў!




### ПОМНІК НАДВОР'Ю

У іспанскім горадзе Дэнія пастаўлен помнік, які павінен праславіць мясцовы клімат. Помнік будзе ўяўляць сабой гранітны маналіт з велізарным тэрмометрам і надпісам: «У нашым горадзе заўсёды добрае надвор'е, сухі клімат і цішыня, як на востраве Мінорка».



### НАД БЕЗДАННЮ

Усяму свету вядома падаючая вежа ў італьянскім горадзе Піза. Але ў СССР, у Арменіі, ёсць вежа, што хістаецца. На схіле гары Арагац стаіць капліца старажытнага манастыра. Землетрасенне адкалола ад каменнай глыбы частку ўцёса, і гэта капліца літаральна вісіць над безданню. А калі дзьмуць моцныя вятры, збудаванне хістаецца разам з абломкам скалы.

### НА ЗЯМЛІ — НЕ Ў КОСМАСЕ!

Амерыканскі касманаўт Джон Глен вырашыў, што яму будзе няцяжка зрабіць кар'еру на палітычнай ніве. Для пачатку ён паспрабаваў выставіць сваю кандыдатуру ад дэмакратычнай партыі на пасаду сенатара ад штата Агайо. Ды дзе там! Ужо на пярвічных выбарах касманаўт пацярпеў паражэнне ад другога дэмакрата — Говарда Метцэнбаума. Чаму Метцэнбаум аказаўся мацнейшы? Ён — мільянер.




Злодзей адарваўся ад калектыву: трапіў у турму.